


№ 8. СЬНЕЖАНЬ. 1937 г.

# МАЛІТВА ДЗІЦЯЦІ.



Перад сьвятым Тварца абліччам,
дзіця, маліся за ўсіх:
Ён кроплі сьлёз тваіх паліча
і адказаць гатоў на іх.

Мо‘ твой блізкі Ангел-Храніцель
зьбярэ гарачых сьлёзаў жар
і панясе дзе залаціцца
між зор сьвяты Яго аўтар.

Маліся і расьці з гадамі.
Дай Бог ў жыцьці, праз мора бед,
каб мог ты яснымі вачамі
глядзець на дзіўны Божы сьвет.

12. XI. 1937.

Пераклад з Нікіціна.



# Ражаство Існуса Хрыста.

Прачыстая Мацi Божая Дзева Марыя жыла ў невялiкiм горадзе Назарэце, у хаце сваяка, старога Язэпа, якi ведамы



быў з свайго набожнага жыцьця. Назарэт знаходзiцца ў Палястыне, а Палястына ў той час была пад уладай рымскага iмпvратара Аўгуста.

Аднойчы гэты iмпэратар выдаў загад зрабiць усенародны перапiс. Кожын юдэй павiнен быў запiсацца ў тым горадзе, скуль паходзiлi яго дзяды. Язэп быў патомкам цара Давiда, а Давiд радзiўся ў горадзе Вiфлееме, таму Язеп павiнен быў

йсьці ў гэты горад. Разам з Язэпам пайшла ў Віфлеем і Дзева Марыя.

У Віфлееме Язэп і Марыя не маглі знайсьці для сябе прыпынішча, бо было шмат народу. Тады яны, як людзі бедныя, прыпыніліся за горадам, у пячоры, куды пастухі заганялі ў непагоду і на ноч свае стады. І вось тут, апоўначы, Найсьвяцейшая Дзева Марыя нарадзіла Сына Свайго Первенца, спавіла Яго і палажыла ў ясьлях на сена.

У той час недалёка ад пячоры, у полі, былі пастухі ля стадаў сваіх. Раптам асьвяціла іх нязвычайнае сьвятло і зьявіўся ім Ангел Гасподні. Яны вельмі перапалохаліся. Ангел сказаў ім: «Ня бойцеся. Я абвяшчаю Вам вялікую радасьць: нарадзіўся ў гэтую ноч у месьце Давідавым Збавіцель, Каторы ёсьць Хрыстос Гасподзь. І вось вам знак: вы знойдзеце Дзіця ў пялёнках, лежачы ў ясьлях». Раптам зьявілася на небе вялікае мноства ангелаў, якія праслаўлялі Бога і пялі: «Слава на вышынах Богу і на зямлі мір сярод людзей добрае волі».

Калі ангелы адыйшлі ад пастухоў, яны сказалі адзін аднаму: «Пойдзем у Віфлеем і паглядзімо, што абвясьціў нам Гасподзь». У пячоры яны знайшлі Марыю і Язэпа, і Дзіцятка, лежачы ў ясьлях. Пастухі пакланіліся Дзіцятку і расказалі Марыі і Язэпу, што бачылі і чулі ад ангелаў.

Апрача пастухоў Віфлеемскіх, на пакланеньне народжанаму Хрысту прыходзілі з далёкага ўсходу валхвы або мудрацы, якія вывучалі рух сьвяцілаў нябесных. Аднаго разу яны ўбачылі на небе нейкую нязвычайную зорку. Валхвы пайшлі ў кірунку гэтае зоркі, і яна прывяла іх спачатку ў Ерусалім, а пасьля ў Віфлеем, дзе знаходзілася Дзева Марыя з Дзіцянём. Пазнаўшы ў Дзіцяці Вялікага Цара і Спасіцеля міра, валхвы пакланіліся Яму і, як таго вымагаў усходні звычай, падалі свае дары.

Праваслаўная царква сьвяткуе Ражаство Хрыстова 25 сьнежня па старому стылю або 7 студзеня па новаму. Да гэтага сьвята мы падрыхтоўваем сябе 40-дзённым пастом, які ў беларусаў завецца піліпаўкамі, ад імя сьв. апостала Піліпа. Напярэдадні сьвята бывае т. зв. куцьця. У самае сьвята вясковыя дзеці ходзяць „со звездою“ і славяць Хрыста.

Рождество̀ Твоѐ, Христѐ Бо́же на́шъ, возсія̀ мі́рови свѣ́тъ ра́зума: въ не́мъ бо ѕвѣзда́мъ служа́щіи ѕвѣздо́ю ѹ҆ча́хуся, Тебѣ̀ кла́нятися Со́лнцу пра́вды и҆ Тебѐ вѣ́дѣти съ высоты̀ восто́ка: Го́споди, сла́ва Тебѣ̀.



# Калажанская царква ў Горадні.

(гл. „Снапок“ № 7).

Калажанская царква цяпер стаіць на самым беразе Нёмна, высокім і стромкім. Пры заснаваньні яе бераг быў далёка. Між царквою і ракою нейкі час быў нават сад. У працягу стагодзьдзяў вада больш і больш размывала бераг, і ў ноч з 14 на



Калажанская царква.

15 красавіка 1853 г., падчас вясеньняга разводзьдзя, выклікала абвал царквы. У Нёман заваліўся ўвесь паўднёвы мур царквы, з аднэй усходняй паўкружынай, частка заходняга, два ўнутранных слупы і столь з папярэчнымі бэлькамі. Страха ўтрымалася, хаця і ёй кожную хвіліну пагражаў абвал. Да сяньняшняга дня захавалася: сьцяна паўночная, палова заходняе сьцяны і дзьве паўкружыны з усходу; унутры будынку захаваліся дзьве пары круглых слупоў, часьць прастолу, зложанага з цэглы, і каменная падлога, а ў ёй плыты над усы-

пальніцамі пахаваных у царкве нябожчыкаў, ад страхі знойдзена некалькі кавалкаў дахоўкі. На падставе таго, што захавалася, можна так прадставіць сабе канструкцыю царквы.

Пабудована была царква ў візантыцкім або ўсходнім стылю, г. зн. так, як да таго будаваліся праваслаўныя храмы ў Візантыі або Грэцыі, а з пашырэньнем прав. веры на славянскім усходзе, як будаваліся ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку, Смаленску і інш. Калажанская царква сваёй канструкцыяй найбольш нагадвае смаленскае і полацкае будаўніцтва XI і XII веку. Форма царквы — выцягнуты простакутнік, з трыма аўтарнымі апсідамі або паўкружынамі на ўсходзе і шырокім прытворам у заходняй частцы. Разьмеры царквы: даўжыня — 7,5 м., шырыня — 4,6 м. і вышыня (сьценаў) — 9,5 м. Пабудована царква з гладкае чырвонае, вылажанае правільнымі радамі цэглы памерам 33,2 x 22,2 x 3,8 см. Дольнія часткі сьценаў вылажаны яшчэ досыць вялікімі, гладка абчэсанымі і адшліфаванымі гранітнымі каменьнямі няправільнае формы, рознае велічыні і памераў. Паверхня сьценаў з усіх бакоў аздоблена шматлікімі ўстаўкамі з рознакаляровых паліваных кахляў, у формах якіх сустракаюцца простакутнікі, квадраты, ромбы, кругі і іншыя геомэтрычныя фігуры, злучаныя ў сваю чаргу ў многакутнікі і крыжы. Кахляная орнамэнтыка або аздоба Калажанскае царквы зьяўляецца адзіным выпадкам, які нідзе больш не сустракаецца ў архітэктуры XII веку — ня толькі ў Беларусі, але і наагул на славянскім грунце.

Страха была з кахлянае дахоўкі. Зьверху на страсе падыймаліся тры кумпалы (макаўкі), увенчаныя кожын жалезнымі вызалачанымі храстамі.

У сярэдзіне чатыры пары цагляных слупоў падтрымлівалі верхнія скляпеньні, столь і страху; з гэтых слупоў дзьве пары былі круглае формы, адна васьмікантавае і адна пара, бліжэй да прытвору, прадоўжна - крыжападобнае. Вокан было 10. Бакавыя апсіды аўтарнае часьці мелі падвойныя сьцены, паміж якіх былі праходы і сходы, што шрубам вялі наверх у вузкія і цесныя памяшчэньні, зробленыя над аўтарнымі скляпеньнямі. Такая канструкцыя бакавых апсід зьяўляецца цалком арыгінальнай і, апрача Калажанскае царквы, нідзе больш нявядама. Пазьней толькі сустракаецца ў Сынкавіцкай царкве, Слонімскага павету, пабудованай ў XV веку. Вучоныя тлумачаць такую канструкцыю тым, што царква мела ня толькі рэлігійнае, але і абароннае ці вайсковае значэньне, дзеля гэтага і пабудована была над аўтарнаю часьцю абаронная галерэя (па-польску «strzelnica“) з байніцамі, пазьней замурованымі. Унізе, пад падлогаю, былі «пазухі» (па-польску «skarb-

czyk») для схову маемасьці царкоўнай. У Сынкавіцкай царкве ёсьць сховы ня толькі для царкоўнае маемасьці, але і для маемасьці жыхароў.

Вельмі добра захаваліся ў Калажанскай царкве т. зв. «галосьнікі», закладзеныя ў тоўшчы муроў мусіць дзеля таго, каб галасьней было чуваць пяяньне і багаслужэньне; адсюль паходзіць самы назоў «галосьнікі». Яны зроблены з гліны і маюць форму высокіх (ад 38 до 50 см.) гаршкоў з вузкімі і даўгімі шыямі. Адтуліны гэтых галосьнікаў відаць на паверхні сьцен. Яны расплянаваны па сьценах у шахматным парадку, правільнымі паземнымі радамі, з адлегласьцю адзін ад аднаго 35 см. У скляпеньнях і ў горніх частках муроў гэтая правільнасьць зьнікае. Ні ў якой іншай царкоўнай будоўлі XII—XIV в. колькасьць галосьнікаў не дасягае такое вялізарнае лічбы, як у Калажанскай царкве, што зьяўляецца аднэй з найбольш характэрных яе асаблівасьцяў. Некалькі з гэтых галосьнікаў перахоўваюцца у Віленскім Беларускім Музэї ім. Івана Луцкевіча.

Матар'ял для будовы царквы быў мясцовы. Цэгла была выпалена вельмі ўмела, чаму муры так добра і захаваліся. На некаторых цэглах ёсьць адбітыя славянскія буквы, пяціканечныя зоркі і розныя знакі,—такія-ж знакі сустракаюцца на цэглах Залатое Брамы ў Кіеве. Цэмэнт рабілі з вапны, жвіру, бітае цэглы і вугальля. Цэмэнтная маса клалася мясцамі шырэй, чым таўшчыня цэглы. Як матар'ялам, так і спосабам кладкі муроў Калажанская царква найбольш нагадвае кіеўскае будаўніцтва.

Хто ці адкуль былі майстры—няведама. Галоўныя майстры найхутчэй былі прыездныя. А мо' былі ўжо і мясцовыя, якім ня ў пяршыню было ставіць каменныя будынкі у розных іншых мясцох.

Хаця ў васнове сваей Калажанская царква ёсьць памятнікам чужаземнага будаўніцтва, але ў ёй бяссумліву выявіліся і некаторыя самабытныя архітэктурныя элемэнты, як гэта мы бачылі з папярэдняга агляду. Перадусім яны і складаюцца на скарб беларускага народнага мастацтва, што можна прасачыць у далейшай яго гісторыі*). Немагчыма прыпусьціць, каб падчас будовы царквы не рабілі свайго ўплыву на характар яе як князь з сваім акружэньнем, так і другія асьвечаныя і бывалыя людзі з мясцовага насяленьня.

——

*) М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. І. Менск. 1928 г.

Калажанская царква ў гісторыі падзяляла долю свайго гораду. У 1183 годзе, як падае летапіс, ад пяруна згарэў і горад і царква. У XIII—XIV веку аб царкве няма вестак. Гэтыя стагодзьдзі былі парою амаль бязупыннага змаганьня з крыжакамі, якія ня раз палілі і руйнавалі горад. Пэўне-ж, не магла захавацца цэлаю і царква. У 1410 г. ў рашучай бітве пад Грунвальдам крыжакі былі пераможаны злучанымі сіламі палякоў, літоўцаў і беларусаў (з боку беларусаў прыймалі учасьце палкі: Смаленскі, Горадзенскі, Ваўкавыскі, Берасьцейскі, Драгічынскі, Мельніцкі і іншыя). Горадня пачынае аджываць і адбудоўвацца. Горадня цяпер другая сталіца Вялікага Князьства Літоўскага. У XV—XVI веку ў Горадні падоўгу жывуць каралі і адсюль кіруюць злучанай Польскай і Літоўска-Беларускай дзяржавай. Адначасна з горадам паступова адбудоўваецца і Калажанская царква, з нейкага часу перайменаваная ў Калажанскі Барыса-Глебскі манастыр. У 1500 году вялікі князь літоўскі Аляксандр падараваў манастыру сад каля царквы і 36 валок, г. ё. 720 дзес. лесу і сенажаці. З часам набывае царква і рознаю іншую маемасьць. Гэта наагул была пара найбольшага росквіту праваслаўнае царквы на Беларусі. Аб гэтым найвымоўней мо' сьведчыць тое, што ў аднэй Горадні было сем храмаў.

У канцы XVI веку пачынаецца заняпад Прав. Царквы. Калажанскую царкву пераводзяць на вунію. Праваслаўныя дамагаюцца яе звароту, аднак без пасьпеху. Вайна з Масквою і швэдамі ў другой палове XVII і пачатку XVIII веку йзноў абярнула Горадню ў руіны. «Мейсцам запусьценьня» была ў гэтую пару і Калажанская царква. Як сьведчыць манах-базыльянін, яна стаяла бяз вокан і дзьвярэй, парасла навакол крапівай і летам была толькі «ochłodą bydła»

У XIX ст. царква зьвернена праваслаўным, упарадкавана і ў ёй адбываюцца стала багаслужэньні. У 1845 г. царква была зачынена, бо вельмі ўжо яўнаю была небясьпека, якая праз восем гадоў скончылася, як мы гаварылі, катастрофай. У 1872 і 1895 г. г. быў зроблены рамонт царквы: на мейсца заваліўшыхся ў Нёман сьцен былі пастаўлены новыя, дзеравяныя, зроблены прытвор і над страхой пастаўлены кумпал.

Гадоў пять таму ў мурох заўважылі шчыліны, дзеля гэтага польскія ўлады царкву зачынілі, узяўшы яе пад сваю апеку. Для праваслаўных людзей Горадні царква захоўвае і ранейшае сваё значэньне, як мейсца малітвы.

**С. Паўловіч.**



# Казка пра Музыку.

(Працяг — частка другая).

Доўга радзілі паслы
над сваей бядой—няшчасьцем.
Парашылі, што жалейку
трэба ім украсьці.
Скураной дарожнай торбай
з іх патрос адзін:
з торбы выляцела птушка,
паднялася ў сінь;
а другі, на мокры дзёран,
з сьвіткі рукава
вытрас цень кудлаты, чорны —
ні воўк, ні сава, —
аж, здаецца, пацямнела
неба, зелень траў...
Трэці.. гадзіну
з-за пазухі дастаў...

——

Вось адзін пасол гавора
птушцы: ты ляці,
дзе лускою серабрыстай
Нёман зіхаціць,
дзе купаецца зялёны
вецер у траве...
там, здаецца, дзесь Музыка
ў тым краю жыве.
Цені кажа: пойдзеш полем —
згасіш ясны дзень
і зблытаеш сьцежкі зораў
з сьцежкамі людзей.
Кажа гадзіне: як толькі
край задрэміць весь,
да Музыкі па жалейку
ціха папаўзеш...

——

Над ракою зьвісла жыта
і клён малады,
сьпіць Музыка пад ракітай,
ня чуе бяды:
што лягла нямая ціша
на палі, лугі:
што над ім блытае птушка
чорныя кругі;
што апала ноч глухая...
і па дзеразе
да яго, на скат пяшчаны,
гадзіна паўзе...
Сьніцца сон яму, што быццам
ружавее даль
і пяе, і залаціцца
ў Нёмане вада.
Бачыць дзівы: цар у палацы,
у золаце сядзіць,
сьмяючыся на Музыку
весела глядзіць.
Выпіў коўш альховы мёду,
выцер бараду
і зайграў ды на жалейцы:
ці-ра-ра... ду-ду-ду...

——

Скочыў да цара Музыка,
зьнік раптоўна сон,
толькі шолах мокрай вікі
і калосься звон,
і ў траве шум ціхі нейкі
там, дзе яру скат...
І за пазухай—жалейкі
не знайшла рука...

(Канец часткі другой).

Вільня, 6.XII. 1937 г.

М. Танк.



ПРЫКАЗКІ.

Сьнежань год канчае,
зіму пачынае.
— Прыйшлі калядкі —
гаспадаром парадкі.

## Сьнег.

Белы сьнег пушысты
сыпіць на сяло:
каля хат, парканаў
горы намяло.
А з высокай гурбы
лятуць санкі ў бег.
З сьмехам спатыкаюць
дзеці першы сьнег.
Гэй! давай дарогу!...
Із апошніх сіл
панясьліся санкі,
сьледам — сьнежны
пыл.
Хто перавярнуўся,
укачаўся ў сьнег...
чуцен крык вясёлы
і вясёлы сьмех.
І нясуцца санкі
усё хутчэй, хутчэй,
па гары высокай,
з грамадой дзяцей.
Балвана зрабілі
пасярод сяла:
стаіць грозны, сьмешны,
у руках мятла.
З хмараў ціха сыпіць,
як з дзіравых стрэх,
на ўзгоркі, межы
і на поле сьнег.

М. Танк.



# КАЧАЧКА-ЦАЦАЧКА.

Захварэла Качачка-Цацачка. Ня есьць, ня п'е, нікуды ня выходзіць. Толькі ляжыць на пуховых падушачках, у шоўку, у золаце і цэлымі днямі стогнам-стогне: «ой-ой».

Што ёй рабіць ды што ёй рабіць? Лячылася за морам — не памагло, ды яшчэ горай прылягло: пасыцела, растаўсьцела, як агурочак, як камочак, аж стагнаць ёй трудна.

А вакол яе мамачкі-нянечкі, зьлючкі-чорнаручкі тупаюцца-грукаюцца, сьлёзы праліваюць, цяжка ўздыхаюць:

— «Паненачка Качачка-Цацачка памірае».

Паклікалі да яе старэнькую знахарачку Мышачку-Барбарачку.

Мамачкі-нянечкі, зьлючкі-чорнаручкі павалiлiся вобземлю і давай старую знахарачку, Мышачку-Барбарачку, маліць-прасіць:

— Вылечы нашу паненачку, Качачку-Цацачку, і за гэта возьмеш поў-маёнтачку пяць кароў, пять валоў, тройку коняй і жмут грошай.

Паглядзела на Качачку-Цацачку знахарачка-Барбарачка, заламала рукі, заплакала, загаласіла і сказала:

— Я гэтачкай хваробы яшчэ ніколі ў жыцьці сваім ня бачыла. Тут толькі паможа Котка-Цнотка.

Паклікалі да пані Котку Цнотку. Нагаварылі ёй абяцаначак-цацаначак, каб толькі вылечыла Качачку Цацачку.

Адмовілася Котка-Цнотка і парадзіла паклікаць Курачку-Дурачку.

— Памрэ Качачка-Цацачка,—залемантавала Курачка-Дурачка,—калі не паклічаце на паратуначак майго мужычка —

пеўніка, Янку-Балабанку: толькі ён адзін дасьць раданьку. Ён не калечыць, а добра лечыць.

Паклікалі мужычка-пеўніка, Янку-Балабанку.

Прыйшоў ён з форсам, з гонарам, з локатам-покатам.

Ку-ка-рэ-ку, пані! Я вылячу васпаню.

Зьняў з сябе Янка-Балабанка дзягу-падпярэзіну і давай лупцаваць і давай лячыць і давай гаварыць да Качачкі-Цацачкі:

— Уставай, гультайка - талатайка, а то да сьмерці прыб'ю.

Лёганька ўскочыла Качачка-Цацачка на ногі з пуховых падушачак і пусьцілася наўцекі, а Янка-Балабанка за ёю. Пагнаў яе на поле і загадаў жыта жаць.

Жала дзень, жала два і тры ад зары да зары. Сьпіна балела, рука млела, а пальцы ў мазалёх—ох, ох!

Карміў Янка Балабанка Качачку-Цацачку не пірагамі, а чорным хлебам ды яшчэ з мякінаю.

Адвыкла Качачка-Цацачка стагнаць, навучылася працаваць, зрабілася жвавенькай, рухавенькай і выздаравела.

Зьм. Бядуля.

# Дырыжабль.

З № 4-га „Снапка“ мы даведаліся аб паветраным балёне. Падняўшыся на балёне, чалавек аднак ня чуўся панам паветра. Ён ня мог ляцець туды, куды хацеў. Ён ляцеў туды, куды нёс яго вецер. Чалавеку хацелася панаваць над паветрам, і ня быць толькі забаўкай вятроў.

Пачынаюцца спробы збудаваць балён, якім можна было-б кіраваць. Прымусіць балён апусьціцца ніжэй было вельмі лёгка: трэба было толькі праз спэцыяльную кляпу выпусьціць газ. Каб падняцца вышэй, трэба было выкідаць узятыя з сабой мяшкі з пяском (гэтак званы «баляст»). Але каб ляцець на балёне у нейкім загадзя выбраным напрамку, калі ў гэтым на-

прамку ня дзьме вецер, — гэта ўжо справа цяжкая; дзеля гэтага трэба мець на балёне нейкую машыну, матор.

Паставілі на балёны паравыя машыны, якія шыбка круцілі прапэлер (такі самы, які пазьней пачалі ўжываць на самалётах). Балёны з паравымі машынамі аказаліся аднак вельмі небясьпечнай забаўкай. Справа ў тым, што вадарод—газ, якім напаўняюць балёны,—вельмі добра гарыць, а зьмешаны з паветрам узрываецца з такой самай сілай, як порах. Вадарод лёгка прасачываецца праз абалонку балёна і зьмешваецца з паветрам. Досыць часам аднэй іскры з печкі паравога матору, каб зрабіўся магутны ўзрыў. Такім узрывам канчаліся амаль усе досьледы з паравымі машынамі на балёнах. Ня шмат людзей можа пахваліцца тым, што засталіся жывымі пасьля палёту на балёне з паравым маторам. Да таго-ж, паравы матор, як мы ўжо ведаем, вельмі цяжкі і таму яшчэ мала прыгодны да лётаньня.

Пасьля вынаходу матору ўнутранага спальваньня (такога, які стаіць цяпер на самалётах і самаходах), спробы кіраваць балёнамі зрабіліся больш удалымі. Новы матор быў ня толькі шмат лягчэйшы, але і больш бясьпечны, бо не даваў столькі іскраў і такой гарачыні, як матор паравы. Балёны з маторамі ўнутранага спальваньня маглі ўжо паволі лётаць у адвольным напрамку, а наватісьці супраць слабога ветру. Хутка лятуны пераканаліся, што балён, які мае форму кулі, ня можа ляцець шыбка. Пачалі будаваць балёны даўгаватыя, у форме гурка ці нават нейкай грубой ці тонкай каўбасы. Такія балёны (іх пачалі называць «дырыжаблямі») лёталі пры помачы матору шмат шыбчэй, чым даўнейшыя, але былі яны мягкія, на ветры заламываліся, былі нямоцнымі, далікатнымі. Нешчасьлівыя выпадкі з імі здараліся вельмі часта, і шыбкасьць іх лёту была агулам невялікая.

У 1900 годзе ў Нямеччыне граф Цэпэлін першы пачынае будаваць балёны на цьвёрдым мэталёвым шкілеце. Балёны гэтыя маюць форму цыгары альбо рыбы, маюць востра закончаны нос, які лёгка расьсякае паветра. Пад балёнам знаходзіцца даўгое і вузкае памяшчэньне для людзей і матору, так званая «гандоля». Балёны такія, ад імя іх канструктара, названы былі «цэпэлінамі».

Цэпэліны асягаюць шыбкасьць да 135 кілямэтраў на гадзіну і могуць пралятаць адлегласьць да 20.000 кілямэтраў, забіраючы да сотні пасажыраў і сотні пудоў тавараў. Яны лёгка змагаюцца з ветрам, не баяцца нават моцнай буры.

Аднак палёты на цэпэлінах нярэдка канчаліся нешчасьліва. Справа йзноў у лёгкай пальнасьці вадароду. Досыць было

часта аднае іскры, напрыклад, ад папсутых электрычных правадоў, каб вадарод запальваўся, выбухаў узрыў і ўвесь велічэзны і магутны цэпэлін гінуў у агні разам з людзьмі. Так згінуў у пачатку траўня гэтага году нямецкі цэпэлін «Гіндэнбург».

Замест небясьпечнага вадароду ўжываюць цяпер для напаўненьня цэпэлінаў іншы газ—гэль. Гэль шмат цяжэйшы ад вадароду, таму цэпэлін напоўнены гэлем можа падняць меншы цяжар, чым цэпэлін напоўнены вадародам, але гэль не гарыць, і таму толькі на цэпэліне, напоўненым гэлем, чалавек можа чуцца бясьпечным. Гэль—газ дарагі, на зямлі яго вельмі мала, дабываюць яго толькі ў Амэрыцы, але пасьля апошняга няшчасьця з «Гіндэнбургам» на ўсім сьвеце, здаецца, будуць толькі яго ўжываць для напаўненьня цэпэлінаў.

На сваїх памылках людзі вучацца панаваць над прыродай. Дорага, часам, каштуе навука, але ні перад чым ня спыняецца розум і адвага чалавека. **Б.**

# ЧАЛАВЕК ПАД СЬНЕГАМ.

Вёз Сымон Цярэшка дровы з лесу. Пачалася завея. Насыпала гурбы сьнегу. Сымону здалося, што ня тою дарогаю едзе. Кінуў каня і пайшоў шукаць свае дарогі. Хадзіў-хадзіў, ледзь цягаючы ногі, наканец змогся і паваліўся ў сьнег. Хутка яго зусім замяло сьнегам. А конь пастаяў, адпачыў і павалок сані да хаты. Была ўжо ноч, калі ён уехаў у свой падворак.

Толькі на трэці дзень адкапалі Сымона. Знайшоў яго сабака лясьнікоў. Сабака пачуў нешта недалёка ад дарогі і пачаў лапамі раскопваць сьнег. Лясьнік падыйшоўшы ўбачыў, што з нары, якую выкапаў сабака, йдзе пара. Пачаў ён капаць далей, бачыць--чалавек. Адразу пазнаў лясьнік Сымона. Прыкрыўшы сьнегам нару, лясьнік пабег хутчэй у вёску клікаць людзей. Сымона адкапалі і павязьлі да хаты. Яго доўга адцíралі на двары сьнегам. Спачатку Сымон не падаваў ніякіх азнакаў жыцьця, наканец пачаў троху аджываць. Тады ўнясьлі яго ў хату. Але Сымон быў яшчэ няпрытомны. Толькі на трэці дзень Сымон прыйшоў да прытомнасьці і папрасіў есьці. Цяпер Сымон здароў, толькі гаворыць неяк цяжка.

На вёсцы доўга не маглі забыць пра гэтае здарэньне. А ў школе настаўнік праз цэлую лекцыю абгаварваў яго з вучнямі.

— Што выратавала Сымона ад сьмерці? — спытаўся ён у вучняў.

— Выратаваў глыбокі сьнег, — адказаў адзін з іх, найздальнейшы.— Ад дыханьня Сымона сьнег навакол яго растаў, і ён апынуўся як-бы ў сьнежнай нары. У нары Сымону было даволі цёпла, бо сьнег не прапушчаў цяплыні наверх.

— А скуль бралася цяплыня? — спытаўся вучыцель.

— Цела кожнага чалавека, як і птушкі і жывёлы, вылучае цяплыню.

— Але Сымон мог задушыцца бяз сьвежага паветра?

— Сымон не задушыўся пад сьнегам дзякуючы таму, што звонку праз пухкі сьнег даходзіла сьвежае паветра.

— А як ратуюцца падчас завеі зьвяры і птушкі, якія ў нас зімуюць? — хтось спытаўся ў настаўніка.

— Яны спакойна даюць замясьці сябе сьнегам, калі пачынаецца завея. Гэтак робяць зайцы, курапаткі, цецярукі. Таму і мядзьведзь спакойна залягае на цэлую зіму ў сваей бярлозе. У халодных краінах закопваецца ў сьнег і чалавек, калі яго захопіць у дарозе завея.

— Цяпер я разумею, — сказаў адзін з малодшых вучняў, — як зімою захоўваецца пад сьнегам рунь, розныя расьліны і дрэвы, асабліва маладыя. Каб ня было сьнегу, то ўсё згінула-б і вымерзла, і вясною не магло-б ажыць.

— Але, — сказаў настаўнік, — сьнег на палёх зімою ўсё роўна, як кажух для чалавека. Пад сьнегам блізка што праз усю зіму аднолькава цёпла. Чым болей сьнегу, тым цяплей.

— Значыцца, калі мала сьнегу, то азіміна вымярзае? — спытаўся другі вучань.

— Але. Часта неўраджай хлеба ад таго і паходзіць. Вось як два гады таму ў Дзісеншчыне, — закончыў гутарку настаўнік, і сказаў вучням ісьці з клясы на перамену.

---

## БЕЛКА.



Сядзіць, сядзіць белка  
на арэхавым кусьце,  
арэшачкі лушчыць,  
вочкамі плюшчыць.

# КАЛЯДНЫ ВЕЧАР У ДЗЕТАК.

Калядны вечар. Сьцюдзена. Марозны вецер пяе каля вуглоў. А з хаты даносіцца вясёлы гоман і сьмех дзяцей. Пойдзем паглядзець дый пагрэцца разам.

Уваходзім ціханька, каб не перашкодзіць. Колькі дзетак! Бялеюцца іх галоўкі, як калядны сьняжок. Хата па-сьвяточнаму прыбраная, чысьценькая. На стале самэтканны абрус. Пасярод хаты ёлачка; на ёй рознакаляровыя сьвечачкі, істужачкі, гарэшкі, цукеркі, пернічкі.

У баку ад ёлкі стаіць зэдлік, на ім у бялюткай кашулі 12-гадовы Зыдорка, прыбраны за Дзеда-Мароза, з доўгай ільнянай барадой, у высокай папернай шапцы. Зыдорка кіруе вясёлай гульнёй. Дзетак галоўкі мітусяцца ў баку ад Дзеда-Мароза. Наймалодшаму Юрку тры гадкі. Маленькі Алесь, Ніна і Янка зайчыкамі скачуць пад ёлачкай. Вушкі ў іх даўгія, даўгія! Пэад Дзедам-Марозам стаяць бялюткія сьняжынкі. Дзед-Мароз пытаецца:

Ці ўсе дарожкі польныя
занесены, замецены?
І лётаючы вольныя,
што чулі дзе па сьвеце вы?
Аб чым пялі з ветрамі
над хаткамі вясковымі?
Каму нясьлі прывет вы,
каго ласкалі словамі?

Тады выступаюць па чарзе сьняжынкі і адказваюць:

1-ая сьняжынка: Мы лётапі над хаткамі,
над лесам і над нівамі,
і шмат былі дзе сьведкамі
і горкаму і шчасьліваму.

2-ая сьняжынка: Адным мароз—чырвоны нос,
ты—дзеткам госьць, услужны ім;
а што другім, другім прынёс,
загнаўшы ў хаткі душныя?..

3-я сьняжынка: Над нівамі, раўнінамі
нясём сюды пацеху мы,
дзе вочкі ждуць дзяцінныя
пад згорбленымі стрэхамі.

4-ая сьняжынка: зварочваючыся да ўсіх дзетак, што пазіраюць з боку, гавора: Для вочак—зор вясёленькіх,
з хвілінкаю шчасьлівай,
на крыльлях белых, беленькіх
каляды прынясьлі вам.

Устае сівенькі Дзед-Мароз, гладзіць сваю бараду, ідзе пад ёлачку, за ім ляцяць сьняжыначкі. Дзеці грамадой бяруцца за рукі, абступаюць навакол ёлачкі, а шэранькія зайчыкі хаваюцца пад яе. Паднімаецца шум, дзеткі пяюць песенкі, тупаюць, крычаць: «Зайчыкі прыскакалі да нас на ёлачку, глядзеце—во-во! Ах, якія прыгожыя! А вушкі даўгія! Давайце зловім!»

Ужо Васілько малы папоўз пад ёлачку лавіць зайцы, але тут Дзед-Мароз сыпнуў папяровым сьнегам на ёлку. Усе змоўклі. Тады адзін за другім выскачылі на сярэдзіну кола зайчаняты, сталі на заднія лапкі і загаварылі тоненькім галаском:

1-шы зайчык:
Зайчыкі мы шэрыя,
у полі мілі мераем.
Пад дубком пахіленым
пільненька сачылі мы
каляду, каляду!

2-гі зайчык:
У ляску нам хараша.
Белачка нам старажам.
Пад ёлачкай вырасьлі...
Каляду—то мы нясьлі
першыя да вас.

3-і зайчык:
Зайчыкі мы шэрыя,
у полі мілі мералі.
Грэлі лапкі змерзлыя,
вабілі мы першыя
дзеткам каляду!..

Дзеці кінуліся лавіць зайцоў. Дзед-Мароз сыпнуў ізноў сьнегам.

Усё сьціхла. Маці з Алёнкаю пачалі раздаваць дзецям гасьцінцы.

15. XII. 1937. М. Васілёк

„СНАПОК“ — царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.
на год 1 зл., на $1/2$ года 50 гр. з перасылкай.
Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.
Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова“:
Warszawa 4, Paryska 27.

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4. На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспадэнцыі і іншыя матар'ялы.

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.